# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 6 (1656) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 7 ЛЮТАГА 1988 г. ЦАНА 12 зл.

## ПАД ШЧАСЛІВАЙ КАНЮШЫНКАЙ

Сімвалічнай эмблемай Аб'яднанага страпніцтва людовага з'яўляецца чатырохлістая канюшынка. Гэта шчаслівая кветка. І сапраўды, для многіх членаў ЗСЛ дзейнасць пад зялёнай канюшынкай стала крыніцай асабістага грамадскага авансу. Для прыкладу, прыгадаем тут лёс цяперашняга маршалка Сейма і старшыні Галоўнага камітэта ЗСЛ **Рамана Маліноўскага**, сялянскага сына з-пад Беластока, які раней кіраваў дзейнасцю Беластоцкай ваяводскай арганізацыі Аб'яднанага страпніцтва людовага, а таксама **Тадэвуша Шэляхоўскага** — цяперашняга намесніка старшыні Рады Дзяржавы, **Казімежа Дуная** — намесніка міністра сельскай гаспадаркі, лясніцтва і харчовай гаспадаркі.

Хацелася б адзначыць, што не забываюць яны, адкуль яны родам, дзе пачалася іх грамадская кар'ера. Т. Шэляхоўскі, для прыкладу, у мінулым годзе ахвотна прыняў прадстаўнікоў Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ. У выніку гэтай сустрэчы, Рада Дзяржавы выдзеліла са сваіх фондаў 5 мільёнаў злотых на пабудову Беларускага музея ў Гайнаўцы.

(Працяг на стар. 5)



Фота Ул. Завадскага.

## ЕЖЫ ТАМАШЭЎСКІ І БЕЛАРУСЫ

Да вайны быў выдатны польскі публіцыст і палітык Тадэвуш Галоўка, які абараняў інтарэсы нацыянальных меншасцяў. Цяпер жа маем Ежы Тамашэўскага, прафесара навук і супрацоўніка самага вялікага тыднёвіка, **„Палітыкі“**. Ён — наш добры дух прыблізна ад дзесяці гадоў ужо. Не раз перадавалі мы на старонках **„Нівы“** змест яго публікацый не толькі ў **„Палітыцы“**, але і ў іншых паважных часопісах. Сёння прыемна нам зрабіць кароткі пераказ зместу ягонай публікацыі **„Меншасці знаходзяцца сярод нас“**, змешчанай у **„Палітыцы“** ад 16 студзеня г.г.

Гэты артыкул прафесара вылучаецца сваёй праграмнасцю, густа напісаны ён.

Нацыянальныя меншасці Народнай Польшчы не жывуць у ёй з чыйгосьці ласкавага дазволу. Яны — такія ж грамадзяне дзяржавы, як і ўсе іншыя. Плацяць падаткі, працуюць на фабрыках, развіваюць сферы навукі, тэхнікі і культуры, падкрэслівае Тамашэўскі. А што яны ўзамен маюць? Напрыклад, беларусы? Маюць Беларускае грамадска-культурнае таварыства, тыднёвік **„Ніва“** і трохі іншых атрыбутаў свайго нацыянальнага існавання. Гэтага, відаць, было дастаткова гадоў якіх трыццаць-дваццаць назад, але не цяпер! *„З пачуццём сораму трэба прызнаць, што мы не ўгледзелі плыні часу і эпахальных змен (...) даўно мінулі тыя гады, калі можна было глядзець на іх* **(меншасці — рэд.)** *як на малакультурныя сялянскія грамады“*, — дадаючы да гэтага заўвагу, што ў пасляваеннай Польшчы практычна не было нацыянальнай палітыкі. Зараз паўвеку будзе ад заканчэння вайны. Выраслі пакаленні беларусаў, непадобных на сваіх сярмяжных бацькоў і дзядоў. Ім ужо мала Беларускага таварыства, якое займаецца народнай культурай; фальклорам і асветніцкімі дакладамі; мала ім часопіса і выданняў **„для люду паспалітага“**. Трэба меншасцям больш, значна больш. Тамашэўскі прапануе ўтварыць у Беластоку спецыялізаванае Беларускае выдавецтва. Лічыць, што нельга далей валаводзіць і з утварэннем палітычных прадстаўніц-

(Працяг на стар. 2)

БЕЛАРУСКІ ЛІЦЭЙ У ГАЙНАЎЦЫ

## ПЕРАБУДАВАЦЬ СВЯДОМАСЦЬ

Сяджу ў кабінеце дырэктара Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы, задаволеная, што ўдалося адцягнуць яго ад раённай канферэнцыі школьных бібліятэкараў, якую ён вёў, і пагаварыць аб ліцэі. Пятро Скепка, які мяне машынай сюды падкінуў, заняўся заварваннем чаю, бо кабінет дырэктара не мае сакратаршы, а Пётр тут не госць, ён музычны кіраўнік школьнага калектыву „Гайтон“.

Гавару: Ваш ліцэй мае моцны беларускі дух. Вельмі часта сустракаю па вёсках вашых выпускнікоў, яны — настаўнікі беларускай мовы і вучаць ёй вельмі добра. Хачу напісаць пра беларускасць Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы.

Дырэктар Аляксандр Іванюк, сам выпускнік Бельскага беларускага ліцэя многа год назад, які, ведаю добра, балюча перажывае ўсе няўдачы ў працы на беларускай ніве, мае словы прымае ўдзячна. Ён здаўна ўкладае сілы ў Гайнаўскі ліцэй, і нічога дзіўнага, што кожная становучая апінія цешыць гэтага чалавека.

У знешнім плане беларускасць у ліцэі рэалізуецца праз беларускія надпісы на дзвярах кабінетаў, школьныя і пазашкольныя, у тым ліку і высокаафіцыяльныя, выступленні дырэктара па-беларуску, пастаяннае ўзбагачванне кабінета беларускай мовы, які з'яўляецца ў Гайнаўскім ліцэі свайго роду этнаграфічнай выставачнай залай, дзе экспануецца народная вышыўка, ткацтва, багатае мастацкае жыццё школы, працуе ж эстрадны калектыў „Гайтон“, у праграмах якога беларускія песні і вершы, вельмі многа вершаў „белавежцаў“.

— Мы імкнемся, — гаворыць дырэктар, — каб беларуская частка ў нашай працы складала 80-90 працэнтаў. Хочам усё больш развіваць пашану і любоў да роднага, вучыць маладых людзей добра валодаць сваёй мовай. Наогул, настаўнікі нашы, а найбольш выкладчык беларускай мовы і літаратуры Васіль Сакоўскі, я сам, — усе мы стараемся максімальна весці выхаваўчую працу, якая б абуджала ў вучнях нацыянальную свядомасць, годнасць, любоў да роднай мовы, традыцый і культуры.

Гаворачы пра навучанне беларускай мовы, дырэктар Іванюк не абмінае, не можа абмінуць праблемы, з якой не можа пагадзіцца. Не ўсюды, не ва ўсіх пачатковых школах дзеці вывучаюць беларускую мову. Вось яго галоўны боль. Многа такіх дзяцей пасля заканчэння пачатковай школы прыходзіць у ліцэй. У апошнія гады такіх бывае да 50 прац. Сярод гайнаўскіх пачатковых школ найбольш вуч-

(Працяг на стар. 6)

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 344

## ШАНОЎНЫ СПАДАР РЭДАКТАР!

Я амерыканка, аднак у маіх жылах плыве беларуская кроў. Вырасла я з сямейнага куста вядомых беларускіх дзеячоў Луцкевічаў.

І бацькі, і асабліва мая бабка Каханоўская, якая з'яўляецца роднай дачкой сястры Антона і Івана Луцкевічаў, як маглі, так стараліся зашчапіць мне любоў да беларусчыны і гэта ім у значнай ступені ўдалося. Хоць я й амерыканка, то ўсё ж прагну сутыкацца з роднай зямлёй маіх продкаў і ўвогуле з беларускімі рэаліямі. Зрэшты, я ўжо сутыкнулася і якраз аб гэтым хачу вам расказаць. Больш чым шэсць гадоў таму назад наведаў дом маёй цёткі Юлі Андрусышын (маці Данчыка) ваш паэт Алесь Барскі. Ён зрабіў на мяне вялікае ўражанне. Ад'язджаючы, А. Барскі ўстаў і прадэкламаваў свой верш „Белавежскія хлопцы". Верш гэты вельмі ўсім нам спадабаўся. Аднак мне вельмі не спадабалася тое, што, пакідаючы дом, Барскі пацалаваўся з цёцяй Юляй, з яе мужам, з бабкай Каханоўскай, а мне толькі падаў руку. Я абурылася і заявіла: „Спадар Барскі, чаму Вы не пацалаваліся са мною, што я найгоршая?". На гэта Барскі адказаў: „Ёсць кветкі настолькі прыгожыя, што баішся да іх дакрануцца".

Тады я сама падыйшла да Барскага і пацалавала яго.

Прайшло некалькі дзён ад гэтага здарэння, і я атрымала ад Барскага верш. Думаю, што паэт мне прабачыць тое, што я прагну, каб гэты верш стаўся ўласнасцю ўсіх чытачоў „Нівы", таму копію яго перасылаю вам з просьбай надрукаваць яго. Хачу падкрэсліць, што Барскі напісаў, што ён у сябе не пакідае копіі і што той экземпляр, які я атрымала, адзіны на свеце!

Ніна Норык



*Прыгожай Ніне на шчасце ад Барскага*

Нам часам Прыгажосць падарыць пацалунак
І чуем мы тады, што вырастаюць крыллі.
Учора лопнула у сінім змроку струна
Ды песня не заціхла нават на паўхвілі.
Глянь, Ніна, на сусвет, абсыпаны сузор'ем,
Які гарыць мільёны год і не згарае,
Хоць часта на зямлі за шчасцем ходзіць гора,
Але не думай ты аб гэтым, дарагая!
Бо твае грудзі, Ніна, — гордыя паэмы,
Бо твае вочы, Ніна, — ціхія азёры,
А зубы — як шляхетны беласнежны крэмень
І шыр тваё душы, як неабсяжнасць мора.
У гэтым лесе Данчык з песняй недзе блудзіць,
Жывічны лес ліе у нашы грудзі лекі —
У свеце нашым ёсць паўлюдзі і ёсць людзі,
Ды веры, Ніна, не губі ты ў чалавека.
Далёка згэтуль да гушчараў белавежскіх,
Ды мне да іх і найхутчэй, да іх найбліжай;
У змроку беспрасветным я знаходжу сцежку
У Лес, што для мяне і Рымам і Парыжам.
І ты, Ніна, ідзі па-над крутым абрывам,
Бо праз жыццё ісці раўнінаю не можна,
І вер — да радасці ты дабрыдзеш шчаслівая
І станеш ля дзвярэй святыні пераможна.
Нам часам Прыгажосць падарыць пацалунак,
А гэта сталася нядаўна, бо учора,
І я яго пералажыў на рыфмаў струны,
Каб жыў і не згасаў, як не згасаюць Зоры.

Нью-Йорк, ліпень 1981 г.

Алесь Барскі

## КНІЖНІКІ

Гэтым кніжнікам часта дзіўлюся,
Іх жыццю сярод пылу і кніг,
Іх наіўнаму жалю і скрусе
Па геройскіх падзеях былых.
Прагавіты, учэпісты позірк,
Нейкі томік у дрыготкіх руках,
Стосы кніжак на брудной падлозе,
Цыгарэта ў шчарбатых зубах.
Неахайны, нябрыты, нязграбны,
Толькі вочы здраджаюць сьвятло
Думкі шчырай, крылатай, прывабнай,
Спачування і веры цяпло.
Сэрцам там, дзе ўздагон за надзеяй
Каравелы вядзе Магелан,
Або там, дзе на вулкі Пампеі
Попел смерці шпурляе вулкан.
Сціплы схімнік надзвычай багаты:
Песціць ён клапатліва, без страт,
Нібы колас малыя зярняты,
Сотні звонкіх і трапных цытат.
Але ж мне аніяк не пазбыцца
Недарэчнага мо пачуцця:
Ці ж далёкай Элады зарніцы
Лепш за тых, што ў акне зіхацяць?
Ці ж раскоша паўднёвай прыроды
І загадкі нянашых часоў
Прыгажэй за цябе, краю родны,
Таямнічых тваіх курганоў?
І таму прамяняю без жалю
Я дурманлівы кніжны нябыт
На азёрныя зябкія хвалі,
На бясконцыя зыбкія далі
І на неба празрыстыя блакіт!

Юрый Кісялеўскі

## НА РАДЗІМЕ ДУНІНА-МАРЦІНКЕВІЧА

Ад берагоў шумлівай Віслы,
Ад вуліц Фенікса-Варшавы,
Прыехаў я над рэчку Іслач,
У творчай працы дом на славу.
Шумяць чулліва лесу дрэвы,
Яны аб чымсьці нам гавораць,
Можа, што Дунін-Марцінкевіч
Тут жыў, пісаў тут свае творы.
Памяць людская ўваскрашае
Мінулае нам безупынку.
Народ у сэрцы захавае
Навечна Дудара з Люцынкі.

Віктар Швед

## ЦЕНІ

Цень дзіцяці і цень старога —
доўгія два цені.
З сабой яны злучаюцца
увечары жыцця і ранкам.
Першы цень — гэта цікавасць свету
і надзея.
Другі — як белы птах із казкі —
заўжды ўспаміны будзіць,
што асталіся за фіранкай.
Крок за крокам, паміж двума ценямі,
я ўвайшоў з двухкрылым ценем:
з правам,
каб да крыніц сваіх звяртацца,
і з абавязкам,
каб дасканаліцца ў тварэнні...

Юрка Баена

## З ДРУКУ

З выказванняў Сакрата Яновіча на тэму паэзіі, змешчаных у часопісе „Паэзія" № 9 за 1987 год.

*1. Z poezją, w ogóle z literaturą jest trochę tak, jak z teatrem: jacy aktorzy, taki i teatr, ale — taki teatr, jaka publiczność jego, czyli scena i widownia są jednią. Sprzężenia zwrotne, nieprawdaż? Z tą istotną różnicą, że literatura (poezja) winna być mądrzejsza od czytelnika, w przeciwnym razie po cholerę ona, po co ją czytać, zawracać sobie głowę! A ową „mądrzejszość" rozumiem następująco: literatura jest umiejętnością wypowiadania, formułowania tych uczuć i myśli, które są w ludziach, w czytelnikach, tyle że jak gdyby nie doświetlone. Literatura mówi za człowieka dla człowieka, niczym, powiedzmy, szklarz szkli okno za ciebie, ale dla ciebie przecież, u diabła! Bo sam tego nie potrafisz albo nie masz czym.*

*Jeśli poezja jest głupsza od współczesnego świata, to nic po takiej poezji. Jeśli poezja nie mówi o sprawach, którymi żyje i trwoży się dzisiejsze społeczeństwo, to nie jest ona potrzebna. Wspaniale jest z poezją, kiedy zaczyna ona mówić o czymś, co człowiek dopiero ledwie przeczuwa, a co niechybnie czeka go w przyszłości nie tak znowu odległej.*

*Nudzą mnie eksperymenty formalne. To zabawka dla tych, którzy niewiele mają do powiedzenia. Wielosłowie, i tyle. Synchronia między formą i treścią — to wielka rzecz, i wielki dar u twórcy.*

*Poeta musi być bojownikiem o coś, powiem więcej: ofiarą tych bojów. Kiedy słyszę od poety, iż musi zarabiać na żonę i dzieci, i na samochód, i na kochankę w dodatku, i na zagraniczny wojażyk, i w ogóle musi on mieć furę pieniąchów, to słuchając takiego poety, chce mi się drzemać. Taki poeta budzi we mnie wręcz wstręt jakowyś... Nie wierzę ani jednemu słowu, mówionemu czy wydrukowanemu, ani jednej jego metaforze. Nie wierzę w jego szczerość, ten główny warunek wszelkiej sztuki. To dla mnie nie poeta, to — cwaniak, to taka kurwa sztuki, prostytutka pięknego wyrazu, zgarniająca pieniądz na handlowaniu ciałem i duszą sztuki. Wyrobnik albo rzemiecha — to zbyt godne nazwanie dla takiego.*

*Poezję... Poezji nie pisze się na stole, na stole jedynie notuje się, robi się jej zapis. Poezję pisze się całym swoim życiem, swoim losem. Jaki twój los, taka i poezja, którą dajesz innym. Jeśli życie swoje wykierowałeś na tłustą chałturę, to i poezja twoja będzie taka właśnie.*

*Historia literatury to przede wszystkim cmentarz, na którym są grobowce, groby i mogiłki tylko. Przeważnie zaniedbane, zarosłe zielskiem albo i zapadłe w niepamięć. Wskażcie mi taki grób, przy którym ciągle świeże kwiaty, a w którym pogrzebany ktoś, kto żył ukojnie i dostatnio! Jeśli okaże się, że jest taki grób, to dla mnie znak nieomylny, że te świeże kwiaty są od krewniaków, póki co żyjących, bo po nich, po ich zejściu z tego świata, już nikt inny nie przyjdzie odwiedzić tego właśnie grobu... No tak. To jest moja odpowiedź o roli poety i poezji.*

*2. Można powiedzieć i tak: poezja poczyna się z wkurwienia rzeczywistością! To bunt, a za bunt obrywa się nie lada jak, i po czerepie, i po karierze życiowej. Buntu nikt nie lubi, a szczególniej wszelki aparat przymusu; odwieczny problem: poeta i król, król i poeta, Puszkin i Mikołaj I, etc.*

*Moje przesłania. Ja mówię: żyjesz, człowieku, raz, i tylko raz, i — na miły Bóg! — pamiętaj, co zostawisz po sobie! Jeśli z ciebie jest bydlę, to nic i nikt nie obchodzi ciebie, i ty nikogo i w niczym nie obchodzisz. Jesteś jeno*

(Працяг на стар. 6)

## Бібліяграфічны куточак

### Аўкцыён у Кельцах

17-19 лютага г.г. у палацыку Зялінскага, што ў Кельцах, адбудзецца кніжны аўкцыён. На нашу думку, некаторыя выдавецтвы могуць зацікавіць чытачоў „Нівы". Паведамляем, што ў аўкцыёне можна таксама прыняць удзел пісьмова. У заказах, кіраваных па адрасу: Antykwariat, ul. Świerczewskiego 39/41, 25-025 Kielce, неабходна падаць нумар пазіцыі, прозвішча аўтара, загаловак і найбольшую суму грошай, якую заказваючы можа заплаціць за кніжку. А вось выбраныя пазіцыі (усіх ёсць каля 2 тыс.):

Poz. 96 — Pamiętnik religijno-moralny, T. 3, 1859 (zawiera m.in.: Muchliński A. — Wrażenia z podróży letniej po Litwie; Korespondencje z guber. Grodzieńskiej powiatu Bialskiego wsi Rudki), Cena wywoławcza 2,8 tys. zł.

Poz. 97 — Jak wyżej... T. 4. 1859 (zawiera m.in.: Chodźko J. — Zapiski o niektórych kościołach na Litwie). C.w. 2,8 tys. zł.

Poz. 581 — Сенкевіч Г. Quo vadis У беларускім перакладзе П. Патырыновіча, Рым 1956, 800 zł.

Poz. 663 — Weyssenhoff J., Unja, Powieść litewska, Częstochowa 1925, C.w. 480 zł.

Poz. 727 — Abraham W., Powstanie organizacji Kościoła łacińskiego na Rusi, T. 1, Lwów 1904, C.w. 2 tys. zł.

Poz. 866 — (Chłapowski K.), Wojna na Litwie w roku 1831 z mapą, Kraków 1913, C.w. 1 tys. zł.

Poz. 873 — Chodynicki H., Sejmiki ziem ruskich w wieku XV. Lwów 1906, C.w. 500 zł.

Poz. 901 — Dąbrowski P., Dobra rodowe i nabyte w prawie litewskim od XIV do XVI wieku, Lwów 1916, C.w. 600 zł.

Poz. 941 — Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku, Zeszyt 5: Wielkie Księstwo Litewskie, Wrocław 1959, C.w. 1 tys. zł.

Poz. 942 — Jak wyżej..., Zeszyt 6: Małopolska — Ziemie Ruskie, Wrocław 1960, C.w. 1 tys. zł.

Poz. 1009 — Gloger Z., Dolinami rzek, Opisy podróży wzdłuż Niemna, Wisły, Bugu i Biebrzy, W-wa 1903, C.w. 2,8 tys. zł.

Poz. 1122 — Jezierski E., Litwa z Koroną, W-wa 1919, C.w. 600 zł.

Poz. 1128 — K.L., Krótki przewodnik Wilno i bliższe okolice, Wilno 1936, C.w. 500 zł.

Poz. 1170 — Klaczko J., Anneksya w dawnej Polsce, (Unia Polski z Litwą), Kraków 1901, C.w. 600 zł.

Poz. 1312 — Lubecki J., Katolicyzm i prawosławie, Glasgow 1944, C.w. 120 zł.

Poz. 1323 — Łowmiański H., Witold Wielki Książę Litewski, Wilno 1930, C.w. 600 zł.

Poz. 1344 — Maliszewski E., Rok 1863 na kresach Mohilewskich, W-wa 1920, C.w. 260 zł.

Poz. 1375 — Pamiętnik Mikołaja II od roku 1890 do 31 grudnia 1917, W-wa 1924, C.w. 1,5 tys. zł.

Poz. 1490 — Pietkiewicz Cz., Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego, Materiały etnograficzne, W-wa 1938, C.w. 3 tys. zł.

Poz. 1520 — Polska i Litwa w dziejowym stosunku, W-wa 1914, C.w. 5 tys. zł.

Poz. 1586 — Rewińska W., Wileński węzeł kolejowy w świetle cyfr, Ruch osobowy, Wilno 1935, C.w. 200 zł.

Poz. 1696 — Srokowski K., Sprawa narodowościowa na kresach wschodnich, Kraków 1924, C.w. 300 zł.

Poz. 1744 — Śliwiński A., Jan Karol Chodkiewicz Hetman Wielki Litewski, W-wa 1922, C.w. 800 zł.

Poz. 1796 — Urban J., Wśród unitów na Podlasiu, Pamiętniki wycieczek misyjnych, Kraków 1923, C.w. 400 zł.

Poz. 1909 — (Załęski), Historya zniszczenia Jezuitów w Polsce i ich zachowanie na Białej Rusi, Lwów 1875, C.w. 2,4 tys. zł.

**Пятрусь Байко**

## Свойскія малюнкі



*Каплічка святой Магдалены ў Беластоку. Мал. Ул. Петрука.*

## Сябрына

## ВЯСЁЛАЯ

### РАЗМОВА З ТАРЭСАЙ РАДЗЕВІЧ

**Міра:** Тарэска, калі ты забяжыш да нас, робіцца светла, весела і звар'яцела ад смеху. Ты спадабалася нават маёй матулі, асабліва таму, што гаварыла на чыстай беларускай мове, хаця ты яе не вывучала ў школе.

**Тарэса:** У нас у Астраўку ўсе так гаворань. У вёсцы палавіна католікаў і палавіна праваслаўных. Мы, Радзевічы, католікі. Мае бацькі ўжо старэйшыя, двое іх толькі засталося ў хаце. Маму завуць Рэгіна, тату — Юзаф. Выгадавалі 10 дзяцей — шэсць дзяўчат і чатырох хлопцаў. Чатыры сястры ўжо замужам, і двух братоў жанатых. Мой самы старэйшы брат, хачу пахваліцца, мастак. Мне 16 мая споўніцца 20 год... Ага, матуля вельмі любіць слухаць беларускую радыёперадачу, а я люблю песню „Ой, сівы конь бяжыць...". Ведаеш, мая малодшая сястра Бэата, ведаеш, якая прыгожая? Яна працуе ў пякарні. Робіць там вельмі смачныя піроЖныя. А такая разумная і паважная. Вельмі цяжка яе „падарваць", вось яна якая!

Наш Астравок налічвае каля 50 гаспадарак. Ёсць у нас школа, злеўня малака, клуб. Вядома, большасць моладзі ў гарадах. Але ў нашу вёску добра даехаць аўтобусам, праз Саколку і Крынкі. Што ж, няма маладых. Нашы бацькі працуюць на сваіх 9 гектарах, стараемся ім дапамагаць. Я кончыла фруктова-гароднінную школу, хачу вечарова ці завочна вучыцца ў тэхнікуме.

**М.:** Ты хочаш жыць у горадзе?

**Т.:** Я вельмі, вельмі люблю быць у горадзе. Люблю танцы. Люблю яшчэ чытаць кніжкі. І тэлебачанне люблю. А часам добра адзінока пабыць у цішыні. Ага, люблю штосьці жывое. Люблю, каб хлопец быў такі: высокі, плячысты, з барадой...

**М.:** Знойдзецца ў нас такі!..

**Т.:** Не хачу, каб тоўсты быў. Ага, каб добра танцаваў. Сама я чую танец у нагах. Мне ўжо столькі год, а выдаецца мне, што мне яшчэ 16. Я такая вясёлая, люблю кампанію смехуноў... Ведаеш, не хочацца мне вяртацца ў вёску, хаця не саромеюся свайго паходжання. Я не хачу, каб пра мяне думалі, што я тупая дзяўчына з вёскі...

**М.:** .......

**Т.:** Ходзіць мне па галаве думка, каб паглядзець заграніцу. Люблю новыя краявіды. А яшчэ я люблю хутка ездзіць летам матацыклам, каб у вушах свісцеў вецер...

**М.:** А якія ў цябе адмоўныя рысы характару?

**Т.:** Так, у мяне не толькі станоўчыя рысы. Ёсць у мяне і адмоўныя, як і ў кожнага... вядома. Бываю нервовая час ад часу. Нос у мяне „не такі", задзерты, не люблю я яго. Валасы стаўлю дыбам на галаве. Ага, яшчэ ў зубах спераду прастрэліна. Гэта ўсё.

**Міра Лукша**

## Сакрат Яновіч — Занатоўкі з Англіі

(Працяг са стар. 2)

Самая таленавітая перакладчыца беларускай паэзіі на англійскую мову, місіс Вэра Рыч паспела з другім выданнем анталогіі творчасці нашых паэтаў. Усё смакуе *„Новую зямлю"*, але актуальна ўвіхаецца над вершамі і жыццём Эдзі Агняцвет. Любіць спяваць у царкоўным хорыку ў багаслужбы а. Алеся, які калісьці і прычыніўся да яе зацікаўленняў беларусчынай. Алесь шмат-каго з англічан — і Джыма Дынглі! — увёў у чарадзейную краіну культуры Белай Русі. Гэта, відаць, толькі яму было пад сілу, беларускаму інтэлектуалісту, адукацыя якога роўная некалькім факультэтам і які свабодна чытае, гаворыць і піша на ўсіх важнейшых еўрапейскіх мовах. Недавук тут нічога не зрабіў бы.

Горка ведаць, што выдатны польскі вучоны Аляксандр Брукнер выдаў у Кракаве васемнаццатага года агідную кніжыцу *„Z niwy białoruskiej"*, якую пачынае словамі, ганьбячымі яго добрае імя: *„Łazarz białoruski nie od czteru dni grób zaległ, już za nim doczekał się czwartego wieku; mimo to każą mu wstać i chodzić między żywymi (...)* Ашаломлены, думаю, чаму ён гэтак пра беларускую культуру? Праз дзень-два як бы зразумеў я: ён, Брукнер, пакінуў навуковую саліднасць ды ўзяўся за пяро публіцыста, каб абараняць узыходзячую Польшчу, якая без *„крэсаў"* не здолела б устаяць як дзяржава. Таму беларускі рух, і ўкраінскі, усяляк зніштажалі або хоць асмяшалі, каб Беларусь не ўзнялася вышэй геаграфічнага паняцця. У тыя рэвалюцыйныя гады друкавалі, перш за ўсё ў Кракаве найгусцей, мноства антыбеларускіх брашур і кніжак, сяды-тады і пад выглядам грунтоўных даследаванняў. Гэта для мяне новы эпізод гісторыі, я не спадзяваўся, што такі меў месца. Досыць спакойна прагледзеў падобную прадукцыю з беларускага боку, напрыклад, датаваную 1921 годам у Лідзе выданнейка нейкага М. Арла *„Чаму ж усыхаюць кветачкі польскія на гною Беларуска-Літоўскім?"* Тыповая ананімка, а яшчэ і з пазнакаю дазволенасці польскай вайсковай цэнзуры, ліпнай. Процікаланіяльны друк, кажучы палітычным жаргонам. Бурліла ў нас, ой, шум ішоў!

Трэцяга снежня зайшоў я ў Скарынінку на даклад графа Адама Замойскага *„Народ у народзе: Беларусь у кантэксце Польшчы"*. Малады польскі арыстакрат, народжаны і пражываючы ў Амерыцы. Вывучае нас, беларусаў, і піша пра нас, беларуская кніжка для яго не экзотыка. Выступіў з беззаганнай элегантнасцю, але... паверхоўна. Практычна без акцэнту валодае ён сваёй роднай мовай, чаго нельга сказаць пра дзяцей нашых эмігрантаў (з рэдкімі выключэннямі ўсе яны асімілянты, гергетуны).

У парадку дыскусіі клопату паддалі графу навукоўцы з Англа-беларускага таварыства, прызвычаеныя да дакладнасці фактаў. І я, не без некаторай плебейскай злаславасці, падказаў публічна па-беларуску патомку слынных магнатаў знакаміта дакументаваныя работы нашага Юркі Туронка. Пацікавіўся яго думкамі наконт лагічна невытлумачальнай варожасці ксяндзоў да беларускага руху. Адказ мне быў у стылі вялікага пана: бо ксяндзы ў Польшчы — гэта, пераважна, мужыкі. і няжка спадзявацца глыбокай культурнасці ды дальнезоркасці ў халопаў, хаця нярэдка і з універсітэцкай адукацыяй яны... і біскупамі нават...

Старшыняваў сходу д-р Джым Дынглі.

(Працяг будзе)




(Працяг са стар. 1)

15 студзеня г.г. адбываўся ў Беластоку чарговы, XVI Ваяводскі з'езд дэлегатаў ад мясцовых гурткоў і гмінных арганізацый Аб'яднанага страннiцтва людовага.

Беластоцкая арганізацыя ЗСЛ пад канец мінулага года налічвала 11.618 членаў, згуртаваных у 887 гуртках. Арганізацыя пастаянна павялічваецца. За перыяд ад папярэдняга з'езда, які адбыўся ў пачатку 1984 года, папоўнілася яна амаль 2600 новымі членамі. Актыўнасцю па разбудове сваіх радоў асабліва вылучаліся гмінныя камітэты ЗСЛ у Беластоку, Васількове, Дабжыневе, Заблудаве, Дуброве-Беластоцкай, Сямяцічах, Саколцы, Моньках, Шудзялаве, Юхноўцы-Дольным і Тыкоціне.

Сяляне ў беластоцкай арганізацыі ЗСЛ складаюць больш 65 прац. агульнай колькасці членаў. Гэта соль і хлеб гэтай партыі. Добрага хлеба аднак не бывае без выдатнай закваскі. Такую „закваску" складаюць у ЗСЛ выдатныя прадстаўнікі разумовай працы. Для прыкладу, **Мар'ян Гала** — ваявода беластоцкі, прафесар **Францішак Тарашкевіч** — выдатны спецыяліст па дзіцячых заразных хваробах, **Яўгеній Гасеўскі** — намеснік старшыні ВРН, **Гертруда Орляч** — пасол у Сейм, дырэктар дзіцячага дома ў Беластоку...

Не грамадскі аванс асобных людзей вызначае, аднак, галоўны напрамак актыўнасці гэтай партыі. У справаздачы, якую атрымалі дэлегаты на XVI Ваяводскі з'езд, сказана:

*„Як сялянская партыя разумелі мы, што нашым найпершым абавязкам з'яўляецца паслядоўная рэалізацыя супольнай сельскагаспадарчай палітыкі ПАРП і ЗСЛ, у першую чаргу рашэнняў XI супольнага пленума Цэнтральнага Камітэта ПАРП і Галоўнага Камітэта ЗСЛ..."*

Перакладаючы гэтыя агульныя накіраванні на практычную, штодзённую дзейнасць Ваяводскай арганізацыі ЗСЛ, неабходна адзначыць намаганні людоўцаў, каб урэшце-рэшт адстаючую вясковую гаспадарку Беласточчыны пачаць лячыць мацнейшымі грашовымі ўколамі. Рышард Нівінскі, старшыня Прэзідыума Ваяводскага камітэта ЗСЛ у Беластоку, выступаючы на гэтым з'ездзе, адзначыў:

— На сельскагаспадарчыя інвестыцыі адводзіцца ў нашым ваяводстве ў гэтым годзе амаль 40 прац. ад усіх грашовых сродкаў, якімі распараджаецца Ваяводская рада. Менавіта гэтага мы і дамагаліся. Здаўна наша партыя змагалася за павышэнне паставак сельскагаспадарчай тэхнікі і за павышаныя інвестыцыі ў вёсках.

Вось наглядныя прыклады. У мінулым годзе было зmeліравана больш 6000 гектараў зямельных угоддзяў і забалочаных сенажацяў. Пра дадатковыя грашовыя датацыі на гэтыя патрэбы паклапаціўся даўнейшы беластоцкі ваявода, а цяперашні намеснік міністра К. Дунай, які якраз каардынуе меліярацыю ва ўсёй краіне.

У 1982-1986 гадах падключана да водаправодаў 18000 вясковых гаспадарак. Да гэтага часу вадой з кранаў карысталася ў тры разы менш сялянскіх сем'яў. Зараз на 1 сялянскі трактар прыпадае ў Беластоцкім ваяводстве няпоўныя 19 гектараў зямельных угоддзяў. 4 гады таму назад было яшчэ — 26 га. Дырэктар беластоцкай „Агромы" гаварыў мне ў час гэтага з'езда, што падначаленая яму гандлёвая ўстанова рыхтуецца ўжо да свабоднага, без ніякіх прыдзелаў продажу сельскагаспадарчых машын.

Гэтыя поспехі не могуць, аднак, прыкрываць набалелыя, здаўна нявырашаныя праблемы. Не ўдалося, для прыкладу, знайсці задавальняючую развязку для загаспадарання вялікіх абшараў зямлі, пакінутай сялянамі або іх праўнымі наследнікамі. І далей амаль 30 тысяч гектараў складае ў нас дзяржаўны фонд зямлі, значыць, практычна застаецца яна без гаспадара. *„...Адносіцца гэта, галоўным чынам, да 24 гмін, што ляжаць ва ўсходняй частцы ваяводства".* Так сказана ў справаздачы на Ваяводскі з'езд ЗСЛ. Аб гэтай зямлі гаварыў таксама ваявода М. Гала ды іншыя ўдзельнікі гэтага з'езда.

Дзякуючы намаганням, між іншым і „людоўцаў", справа загаспадарання „ўсходняй сцяны" Беласточчыны апынулася на разглядзе Рады Міністраў. Ёсць спецыяльная пастанова *„Па справе загаспадарвання зямельных угоддзяў ва ўсходняй частцы краіны".* У з'ездаўскай пастанове гэтай справе адводзіцца асобнае месца.

Багаты і працавіты быў гэты з'езд. Дэлегаты ў тайным галасаванні выбралі Ваяводскі камітэт сваёй партыі. Асобна выбіралі яны старшыню Прэзідыума ВК ЗСЛ. Былі два кандыдаты. Выбарная камісія прапанавала ранейшага старшыню Рышарда Нівінскага, а хтосьці з дэлегатаў пажадаў, каб кандыдаваў на старшыню таксама Яўгеній Рагоўскі. Пасля падліку галасоў аказалася, што за Р. Нівінскага галасавала 164, а Я. Рагоўскага падтрымала 36 дэлегатаў. Значыць, на працягу наступнай кадэнцыі беластоцкай ваяводскай арганізацыяй Аб'яднанага страннiцтва людовага далей будзе кіраваць **Рышард Нівінскі.** Дэлегаты гаварылі аб ім як аб чалавеку вельмі скромным і працавітым.

З'езд закончыўся познім вечарам. У пастановах, якія прынялі дэлегаты, закранаюцца найбольш істотныя і неадкладныя праблемы Беласточчыны. Шмат гаворыцца пра намаганні за болей культурныя і спакайнейшыя ўмовы жыцця і працы нашых сялян. Што ж, чатырохлістая зялёная канюшынка абазначае шчасце.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



Заслужаныя людоўцы: Ежы Мразоўскі, Леакадзія Муха і Ян Назарка. Ззаду за імі: маршалак Сейма Раман Маліноўскі і ваявода Мар'ян Гала.

# ВРОЦЛАЎСКІ ТЭАТР ПАНТАМІМЫ Ў БЕЛАСТОКУ

Неўзабаве беластачане будуць мець магчымасць убачыць прадстаўленне Вроцлаўскага тэатра пантамімы „Гамлет — Іронія і Жалоба", якое адбудзецца ў рамках Тэатра Рэчпаспалітай.

Вроцлаўскі тэатр пантамімы вядомы на ўсіх кантынентах свету. Хаця пастаяннае месцазнаходжанне яго ў Вроцлаве, то фактычна гэта вандроўны тэатр, які любіць беспасрэдны кантакт з публікай, які шукае яе ўсюды там, дзе толькі можна. Тэатр Генрыка Тамашэўскага мае вялікае прызнанне ў краіне, і кожны яго візіт у розных месцах Польшчы з'яўляецца вялікай падзеяй. Менавіта таму тэатр Рэчпаспалітай, створаны для прапагандавання найбольш вартасных дасягненняў польскага тэатра, прадстаўляе беластоцкай публіцы спектакль „Гамлет — Іронія і Жалоба" ў выкананні Вроцлаўскага тэатра пантамімы.

Як вядома, у пантамімічных відовішчах дамінуюць такія сродкі артыстычнага выяўлення, як рух, жэст, міміка. Усё гэта тут інтэгральна звязана з касцюмамі, дэкарацыяй, святлом, музыкай. Тэатр без слоў Генрыка Тамашэўскага, хаця гучыць гэта як парадокс, з'яўляецца тэатрам вялікай літаратуры. старых міфаў і матываў, якія ўсюды зразумелыя, паколькі з'яўляюцца супольным наследствам чалавецтва.

У праграме „Гамлет — Іронія і Жалоба" інспірацыяй была драма Шэкспіра пра дацкага князя Гамлета, прызнаная адным з найбольш знакамітых твораў сусветнай літаратуры. У спектаклі ролю Гамлета іграе Марэк Алексы.

Прадстаўленне Вроцлаўскага тэатра будзе паказана ў Беластоку ў тэатры імя А. Вянгеркі 10 лютага 1988 года а 18.00 гадзіне і 11 лютага 1988 года а 16.00 гадзіне і 19.30 гадзіне. Варта паглядзець! **(ач)**

# НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

W związku z publikacjami prasowymi zamieszczonymi w Tygodniku „Niwa" w nr z dn. 15.11. i 6.12.1987 r. pt. „Niaszczaście za niaszczaściem u Elektary" i „Kab choć pierad śmierciu". Rejon Energetyczny Bielsk Podlaski uprzejmie informuje, iż Eltor Punkt Usługowy w Bielsku Podlaskim zainstalował wyłącznik oświetlenia ulicznego we wsi Rajki z zastosowaniem przekaźnika zmierzchowego w pobliżu stacji transformatorowej. Powyższe roboty odbyły się przy współudziale pracowników naszego Rejonu. W dn. 1988.01.05 pracownicy Rejonu uruchomili nieczynne lampy oświetlenia ulicznego i obecnie jest ono sprawne w 100 proc.

Sprawa dotycząca braku oświetlenia we wsi Jacewicze została przekazana do Rejonu Energetycznego Łapy.

W dn. 1988.01.06 otrzymaliśmy telefoniczną odpowiedź Kierownika RE Łapy, iż oświetlenie w Jacewiczach było naprawione w dn. 16.12.1987, wymieniono cztery żarówki; ogółem jest czynnych 6 lamp.

Rejon Energetyczny Bielsk Podl.
Kierownik Rejonu
**inż. Sergiusz Tkaczuk**
Dyrektor Energetyki III stopnia

# З ДРУКУ

(Працяг са стар. 3)

*przewodem pokarmowym, biegającym co rano po chrupiące bułeczki i mleczko, i masełko (tfu, te debilne zdrobnienia). I nie pieprz mi, ty wyelegantowany łachu jeden, że nie masz szans bycia człowiekiem, bo nie dano ci, bo blokują cię, bo mają ciebie gdzieś itd. Człowiekiem się bywa, jak złodziejem, który, jak wiadomo, zaczyna od przysłowiowego rzemyczka czy grzebyczka... W człowieczeństwie nie ma rzeczy dużych i malusich-tyciuteńkich, wszystko jest jednakowo ważne. Dyrektor, który nie ruszy się z fotela przy swoim ołtarzu władzy na widok wchodzącej do jego gabinetu pani sprzątaczki ze sprawą do niego, to już prawie nie dyrektor, a na pewno nie mężczyzna. Hierarchia potrzeb ma sens w technologii życia, bytu, lecz nie w „ludzkości" człowieka. Zaszczuty referencina, zachowujący się w swojej rodzinie niczym chuligan, klnący, że życie go tak przymusza, jest rabem bożym, któremu niepotrzebnie dano wolność osobistą i jakieś tam prawa obywatelskie.*

*Chcę, by człowieczek nasz poczuł obrzydzenie do siebie nie po to, by wrócić do etyki chłopa pańszczyźnianego, czującego się źle bez paną i karbowego nad sobą Chodzi mi o arystokratyzm ducha, nie wymagający przecież miliardowych inwestycji i dywanów na parkiecie. Chodzi mi o wyzbycie się kompleksu chama na pokojach, o wyzbycie się tego, kiedy to piesek domowy ma większy rodowód niźli jego właściciel. O to idzie, o co szło i Gombrowiczowi: by ciasteczko nie przerastało konsumenta.*

*Jeśli jestem poetą, to poetą tego samego tematu: ludzie, no przypatrzcie się sobie, jakie z was łachudry! Czy koniecznie musicie nimi być? Czy nie obraża was kult łotrostwa, ciągłego „robienia w konia" kogoś przez kogoś? Rasowy piesek prowadzony na smyczy przez ludzkiego kundla.. Ach! Spróbujcie zostać arystokratami ducha, no!! Nie żyj dla regału i „malucha", po którym zostaną złom i niepotrzebnota. U jednych Chrystus, u drugich Marks, lecz obaj oni zgodnie nawoływali do tego samego, do życia dla innych. Oczywiście, bez dziecinnej przesady, bez fanatyzmu ideowego analfabety. Do świętych — i tych, i tamtych — modlimy się i odwołujemy, lecz nikt nie lubi ich w samym życiu, zrujnowaliby bowiem gospodarkę, poszlibyśmy z torbami (ba, ale do kogo byłoby iść z tymi torbami?!). Na pustynię gryźć korzonki...*

*Jest wieczny problem: żyć po ludzku, ale za jaką cenę? Jak zostać człowiekiem, lecz też za jaką cenę? Cywilizacja niszczy człowieka, a człowiek tworzy cywilizację. Tworzenie i niszczenie, niszczenie i tworzenie. W naszej strefie cywilizacją jest „maluch", sedes, wanna, wykładzina, PCV, bunkier zwany willą, żwirówka — droga — do wsi, referent bez łapówek, władza bez średniowiecznego traktowania poddanych, sprzedawczyni w sklepie nie będąca kandydatką na złodziejkę. (...)*



# ПЕРАБУДАВАЦЬ СВЯДОМАСЦЬ

(Працяг са стар. 1)

няў з веданнем беларускай літаратурнай мовы ліцэй атрымлівае са школы № 2 і са школы на Юдзянцы. А з вясковых школ — добрыя вучні прыходзяць з Кленік, Чыжоў, Дубінаў, Навакорніна, Старакорніна, Арэшкава, Дубіч-Царкоўных.

Працэнт аднак добрай, старраннай вясковай моладзі, які даўней складаў у ліцэі 80, нават 90, цяпер знізіўся да 50. Таму трэба старацца, лічыць дырэктар Іванюк, каб ва ўсіх гарадскіх школах Гайнаўкі адбывалася навучанне беларускай мовы. Неяк нядаўна дырэктар сустрэўся з бацькамі ў школе № 5. У выніку — знайшлася там група малодшых дзяцей, ахвотных вучыцца па-беларуску чытаць і пісаць. Такія дзеянні, такія сустрэчы і размовы трэба прадаўжаць. А. Іванюк бачыць вялікую ролю і сэнс працы з бацькамі, сістэматычнай працы з бацькамі, бо, згодна з загадамі асветных улад, толькі бацькі могуць дазволіць сваім дзецям вучыцца па-беларуску.

Супрацоўніцтва Гайнаўскага беларускага ліцэя з бацькамі — сяброўскае і плённае. Тое, што школа вядзе адкрытыя кантакты, што адбываюцца рэгулярныя, арганізаваныя сустрэчы з бацькамі тры разы ў год, што прысутнасць бацькоў на гэтых сустрэчах дасягае 90 і больш працэнтаў, што бацькі маюць просты доступ да класных выхавацеляў, — усё гэта дае пажаданыя вынікі. Бацькі ўносяць вялікі грамадскі ўклад у працу школы. І па-другое — у іх самі беларуская свядомасць узрастае і ўмацоўваецца, а гэта ўздзейнічае і на моладзь. Дырэктар падае прыклад адной размовы. Бацька просіць прыняць хлопца ў беларускі ліцэй, тлумачачы: „Знаеце, я хачу, каб ён вучыўся ў сваёй школе".

— Працуючы доўга настаўнікам беларускай мовы, — кажа А. Іванюк, — я наглядаю змену ў адносінах моладзі да сваёй мовы і культуры. Усё часцей наша моладзь смела выступае пры нагодах на роднай мове. Расце папулярнасць беларускай мовы і ў размовах паміж сабой у школе і па-за школай. Хочам, каб нашы настаўнікі спрыялі такой тэндэнцыі. Гэтаму ж мае служыць і арганізаванне ў нашым ліцэі настаўніцка-вучнёўскага гуртка БГКТ, які ўзначальвае з боку настаўнікаў Васіль Сакоўскі, а з боку вучняў — трэцякласнік Юрка Вапа. Гурток мае заданне развіваць і ўзбагачаць беларускасць нашага ліцэя. Рознымі спосабамі. Ужо ён арганізаваў сустрэчы з цікавымі людзьмі, навязаў кантакт з Бельскім беларускім ліцэем, правялі яны супольны рэйд, працуюць над сабой.

Патрэба фармаваць свядомы нацыянальны кругагляд вызначае мэту працы дырэкцыі і ўсяго настаўніцкага калектыву Гайнаўскага беларускага ліцэя. „Шануй і пазнавай багатую продкаў нашых спадчыну: мову, літаратуру, традыцыі, фальклор" — вось мэта нашай працы, наш дэвіз", — гаворыць Аляксандр Іванюк.

**Вера Валкавыцкая**



Дырэктар Гайнаўскага беларускага ліцэя Аляксандр Іванюк.

## ДЗЕЦІ З КАРАКУЛІНА

Калі летам 1942 года Збышку Маку ўдалося дабіцца, каб яго адпусцілі ў школу лётчыкаў-арлянят, якая існавала пры Другім Корпусе Войска Польскага ў СССР, падначаленага генералу У. Андэрсу, тады Збышкавы сябры, у першую чаргу Генрык Малышка, Мар'ян Кундзіш, Шмайда і Чарлюнчыкевіч яшчэ цяжэй перажывалі факт, што дырэктар Пеўзнер забараніў ім праявіць на справе свае патрыятычныя пачуцці.

— Мы на крылах паляцелі б у Польскае Войска! — кажа пан Генрык. — І я рашыў, што ўцяку. Дамовіліся са Шмайдам, бо меркавалі, што ўдваіх будзе зручней.

Рыхтаваліся доўга. Найцяжэй было запасціся прадуктамі. Скупыя пайкі ледзь утаймоўвалі пастаянны голад. Урэшце наступіў рашаючы дзень. Выпаўзлі ў дзетдомаўскі агарод. Ужо світала, і сабакі чамусьці ўзнялі страшэнную брахню. Прылеглі ў барознах. Удзень баяліся ісці далей. Найлепш было б прабрацца на нейкую баржу, якая ўніз па Каме кіравалася б у бок Куйбышава, дзе знаходзіўся штаб Польскага Войска.

Ад дзетдомаўскіх будынкаў даходзілі да іх знаёмыя водгукі ранішняй мітусні. Мучыла пытанне: што зробіць дырэктар Пеўзнер, калі выявіцца, што іх няма сярод сяброў?

Дырэктар Пеўзнер проста пазваніў у раённае аддзяленне органаў дзяржаўнай бяспекі, і з гэтага моманту шанцы на ўцёкі для рамантычных юнакоў звяліся практычна да нуля. Хутка




салдаты НКВД затрымалі іх і адаслалі назад у дзіцячы дом. На шчасце, дырэктар Пеўзнер заступіўся за іх, узяў на ўласную паруку, і на гэтым цэлая юнацкая аванцюра закончылася. Хаця не цалкам. Хлопцаў паслалі працаваць у калгас.

— Ведаеце, што я нарадзіўся і выхаваўся ў горадзе, у Беластоку, — кажа Генрык Малышка. — Аб працы на зямлі не меў я ніякага ўяўлення. Здавалася мне, жартам кажучы, што гатовыя піражкі растуць на дрэвах, быццам яблыкі. А тут давялося нам і араць, і сеяць, і касіць, і малаціць. У калгасах засталіся адны жанчыны, дзеці і старыя мужчыны, якіх ужо не бралі ў армію. Першы раз пабыўка ў калгасе абмяжавалася для нас толькі да двух тыдняў. За другім разам яна зацягнулася на ўсё лета.

— Быў гэта калгас „Красная Звезда", — успамінае Генрык Малышка. — Пасялілі нас у вёсцы Шунішора. Мяне прыняла да сябе на кватараванне адзінокая жанчына, сыны якой былі на фронце. Жылося ёй цяжка, але яна заступала мне родную маці. Ды і наогул калгаснікі адносіліся да нас са спагадай, чым маглі, дапамагалі і дзяліліся. Прыпомнілася мне з таго часу адно здарэнне. У калгас прывезлі рэчава-грашовую латарэю. І заахвочвалі ўсіх купляць латарэйныя білеты, каб такім чынам папоўніць фонд на абарону краіны. І вось дырэктар калгаса, ваенны інвалід, кажа мне:

— Ну, Генрык, вазьмі хаця б на сотню рублёў гэтых білетаў!

— То ж у мяне няма ані капейкі! — гавару дырэктару.

— Неяк мы гэта ўладзім, — кажа дырэктар. — Вось за тваю работу выдзелю я табе крыху бульбы, ты бульбу прадасі, а на

Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




Аднойчы „Зорка“ атрымала прыгожую, дзіцячай рукой намаляваную паштоўку. На ёй Дзед Мароз з вялікім мяшком падарункаў накіроўваўся ў бок вёскі, на якую выразна паказваў дарожны знак з надпісам „Плёскі“. У сярэдзіне гэтай паштоўкі было запрашэнне для „Зоркі“ на навагоднюю ёлку, нават з апісаннем, калі і чым можна туды даехаць.

Вядома, „Зорка“ любіць ездзіць да дзяцей у госці, а тым больш на ёлку.

І вось яна ў школе. Найбольшы клас, са сцэнай і месцамі для гледачоў, з вялікай аж пад столь ёлкай цудоўна ўпрыгожаны. Дзеці, усе ўрачыста прыбраныя, з вялікай сур'ёзнасцю чакаюць моманту свайго выступлення. Не так проста быць артыстам у сем-дзевяць год, хоць бы на сцэне ўласнай школы. А ўдзельнічалі ў канцэрце ўсе дзеці. Спачатку выступілі наймалодшыя — з першага і нулявога класа. За імі — васьмі-дзесяцігодкі. Колькі ж яны ведаюць розных вершыкаў і песень пра ёлку, пра зіму, пра звяроў! Быў таксама „Дзед Кандрат“, які выйшаў на сцэну проста са старонак „Зоркі“ з прывітаннем Новага года. Потым трэцякласнікі (старэйшы ў школе клас) паставілі беларускую сатырычную аднаактоўку „Пярэстая красуля“. Хоць тэма, можа, не надта дзіцячая, але стары беларускі гумар надта ж падабаўся і малым і дарослым.



Выступаюць вучні другога і трэцяга класаў. Імі кіравала настаўніца Раіса Леснік.



Вершы дэкламуюць наймалодшыя. Рыхтавала іх настаўніца Леаніда Анхім-Рудчэнка.



Канцэрт вельмі спадабаўся гледачам.

Затым з'явіўся Дзед Мароз. І ўсе дзеці — за выступленні і за расказаныя вершыкі — атрымалі падарункі. Атрымала падарунак і „Зорка“, мабыць, за добрыя вершыкі ў ёй ды казкі. А бацькоўскі камітэт падрыхтаваў дзецям падвячорак — смачныя бутэрброды, торты, сырнікі, пячэнне ды розныя прысмакі.

**Яніна Чэрнякевіч**

Фота аўтара.

**Вісарыён Габрук**




Мама загадала мне разбіць для торта яйкі, а сама да суседкі пайшла. Пазычыць ванілі. Вяртаецца — зірк на мяне і здзівілася:

— Што здарылася? Чаго ў цябе такая разгублена-вясёлая мордачка?

Зірнула мама на стол, дзе шкарлупінне белай горкай, і сама разгубілася.

— Дзе бялкі, дзе жаўткі? — пытае мама.

— Там, — паказваю. — За акном.

— Выкінула?... Увесь дзесятак?!

— Не, — кажу. — У неба паляцеў.

— У якое неба?!

— У звычайнае, — тлумачу — Блакітнае.

Мама падышла да распасцяжанага акна, паглядзела ўніз на зямлю, кінула зрокам на неба і зноў да мяне з пытаннямі.

А што я магла сказаць? Яшчэ раз пра тое, што здарылася? А здарылася вось што.

Мама за дзверы, а я да яек. Узяла адно. Ударыла яго па баку вострым краем нажа. Ледзьледзь. Я ўжо ведаю як. Асцярожна раздзяляю палавінкі шкарлупіны, а там — куранятка! Жоўценькае, такое пушыстае. Адразу галоўку ўгору! Не паспела здзівіцца, а яно мах-мах крылачкамі ды ў акно.

Разбіваю яшчэ яйка... пятае... нарэшце, апошняе — дзесятае. З усіх вокамгненна выпырхваюць кураняткі! І ў акно!.. Нібы хтосьці ім дарогу туды паказаў. А апошняе нават піснула два разы. Так радасна! Мабыць, падзякавала за дапамогу. На сваёй кураняткінай мове.

Калі мама нарэшце ўпэўнілася, што я не хлушу, накінулася на мяне:

— Хоць бы акно здагадалася зачыніць! Хоць бы адно яйка неразбітым пакінула!.. „Зацікавілася!.. Захапілася!“ — перадражніла мяне. — Думаеш, мне не хочацца паназіраць за гэтымі ненармальнымі куранятамі?.. А цяпер — шукай іх!

— Чаму ненармальнымі? — пярэчыла я. — Наадварот! Самыя нармальныя!.. Яны гімнастыкай у сваіх шкарлупках займаліся. Да выхаду рыхтаваліся. Вось і вынік!

І я напомніла маме, якой бездапаможнай была да заняткаў спортам. Нават смешна ўспамінаць.

Гады тры таму назад тата ля дома паставіў турнік, жэрдку і лесвіцу. Я так зарадавалася. Разгушкалася на перакладзіне і раптам — бразь на зямлю! Рукі саслізнулі. Так грымнулася спіной, што па ўсім падворку проса рассыпалася! Звычайнымі крупамі, з якіх кашу вараць!

Не паспела сабрацца, набеглі куры з куранятамі, пахапалі мяне ўсю! Адчуваю, што адным толькі зернеткам, якое пад ліст падарожніка закацілася, я засталася. Спалохалася! Ляжу пад зялёным лістком, калачуся: „Што ж цяпер са мною будзе?“

І раптам успомніла: „Я ж сама калісьці хацела стаць малюсенькай, малюсенькай, меншай, чым Хлопчык з пальчык, менш Дзюймовачкі...“ Як пра гэта ўспомніла, адразу сама сабою стала! З аднаго зернетка аднавілася!..

Узрадавалася, на ногі падхапілася! Каб праверыць — ці я ўся? — па падворку скокам і на рэчку. Ад пяску і пылу адмыцца. Выкупалася, вяртаюся дамоў, песеньку пра аранжавае сонца спяваю. Ля дома мама заклапочаная сустракае.

— Нешта кураняткі нічога не ядуць. Мабыць, занядужалі.

Я засмяялася, расказала, што са мной здарылася, але мама і рукой махнула: „Табе гэта прыснілася. Такога не бывае“.

„Да сёння не было, — падумала я. — Але з кімсьці першым павінна здарыцца!“ І я не здзі-

(Працяг на стар. 10)




**Станіслаў Шушкевіч**

**ЖЫЎ БАРАН СКУПЫ**

**Лады, лады, ладачкі!..
Еў баран аладачкі.
Паглядала свінка
І глытала слінку.
Вельмі быў баран скупы,
Прытварыўся ён сляпым.
Дзве вароны прыляцелі,
Ля скупога побач селі.
Адвярнуў ён пыску,
А яны — за міску.
Ножкай бэкала грабе,
Бо ўжо міска на вярбе.
Дзве вароны-хваткі
Дзёўбаюць аладкі.
Накармілі варанят,
Што сядзелі з ім у рад.
Падзяліліся з сарокай,
Што скакала недалёка.
Не забыліся пра свінку,
Што глытала воддаль слінку.**

**Лады, лады, ладачкі!..
З'елі ўсе аладачкі.
А баран пайшоў у хлеў,
Скупянда, як мыла з'еў.**

# ПРЫСТАСАВАНЦЫ

Станкоў не знаюць, араць не ўмеюць,
Да воза з гноем не йдуць і блізка.
Разумнае, вечнае, добрае сеюць
Між мас працоўных амаль з калыскі.

Закончаць нешта з тугой нацяжкай,
Запас прыдбаюць цытатаў розных.
Дзяцей у школе вучыць ім цяжка,
Лягчэй, выгодней вучыць дарослых.

Цытата з вока, цытата з вуха,
І зуб у роце бліпчыць цытатай.
Глядзіш з сумненнем на сына-зуха —
Кім ён зрайстрован? Наўрад, ці татам.

Ідуць насустрач грашовай справе,
На пафас голы яны не клюнуць.
Маліцца будуць, калі ты ў славе,
Калі ты ў горы — з насмешкай плюнуць.

Разлік дакладны ды плюс удача,
Паклон начальству ды жартаў крышку —
Глядзіш — і стаўка, а там і дача,
Грунтоўны базіс апчаднай кніжкі.

І, уладкаваўшыся адмыслова,
Чужыя думкі прыстойна крадуць.
Зусім забылі жывое слова
І занядбалі людскую праўду.

Застылі твары кароўім лоем,
Нос падпірае тупая веліч.
Глядзяць з пагардай на ўсё малое,
Балбочуць нешта ды ружавеюць.

Вялікай працай заняты людзі,
Пяюць у шчасці, ў бядзе бядуюць.
Прыстасаванцы ж б'юць гулка ў грудзі,
Крычаць — „гадуем...",
крычаць — „будуем...".

Сярод народа такіх не многа,
Ды вельмі ж хітра яны нам шкодзяць.
Нам замінае вось гэта погань,
Як пыл дарожны ў цяжкім паходзе.

Іх распазнаюць людскія вочы,
Ні ў якіх норах ім не схавацца.
Мы гэта зробім, калі не хочам
Да прыстасаванцаў прыстасавацца.

**Пімен Панчанка**





Сабака — друг чалавека!

### СМЕЛЫ

— Ты прызнаўся, што схапіў двойку?
— Так, прызнаўся.
— Пакаралі цябе за гэта?
— Не... Дома нікога не было.



Варыянт хатняга велатрэка.

### ПРЫКМЕТЫ

На рагу вуліцы пані Задрыпкоўская падыходзіць да міліцыянера і пытае:
— Даруйце, вы часам не бачылі тут майго мужа? Гадзіну назад мы павінны былі на гэтым месцы сустрэцца.
— А як ён выглядаў?
— Ну, ён быў увесь зялёны ад злосці.

### ПРАХОЖЫ

Самаход штурхае прахожага. Той углядаецца ў шафёра і крычыць:
— Скандал! Ужо другі раз у гэтым месцы наехалі вы на мяне.
— Прашу прабачэння, — гаворыць пірат-пачатковец. — У першую хвіліну я вас не пазнаў.



Адсутнасць звілін кампенсаваў звілістасцю службовых сцежак.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Тата, а чаму гэта наш вяпрук, калі есць, заплюшчвае вочы? — запытаў сын у бацькі.
— Ды, мабыць, яму сорамна есці белы хлеб, які мама яму з магазіна прыносіць, — адказаў бацька.

*

Два пажылыя містэры глядзяць на групу нудыстаў.
— Якая агіднасць! Гэта трэба неадкладна забараніць! — усклікае адзін.
— А вы, відаць, вялікі мараліст? — пытае другі.
— Не, я фабрыкант купальных рэчаў!..

*

— Не, фрэкен Мадсэн, я не магу павысіць вам зарплату. Вы і так атрымліваеце столькі ж, колькі бухгалтар Ольсэн, а ў яго ж чацвёра дзяцей!
— Даруйце, пане дырэктар, я заўсёды лічыла, што служачы атрымлівае зарплату за тое, што ён робіць на рабоце, а не за свае хобі!

### АПОШНЯЕ ЖАДАННЕ

Нарачоны ў прысутнасці будучай жонкі і цёшчы катэгарычна заявіў:
— Я хачу, каб мы пайшлі ў загс роўна ў адзінаццаць гадзін. Хачу таксама, каб заўтра вы нарыхтавалі смачны абед і добра прынялі маіх сяброў.
Калі нарачоны выйшаў, маці незадаволена сказала дачусі:
— Ты глядзі, які камандзір! Ці не замнога хоча твой будучы муж?
— Нічога, — сказала нарачоная, — гэта яго апошняе жаданне.

З „Весніка Задрыпоніі"

### АБВЕСТКА

Гарадская аўтобусная ўправа даводзіць да ведама пасажыраў, што закончыўся год зайца і пачаўся год дракона!

### АДКРЫЦЦЁ ДАЦЭНТОВІЧА

Вясковы снег чысцейшы. затое гарадскі — куды больш змястоўны.






На спатканні.

### ВАРУХНІ ГАЛАВОЮ



Сярод шматлікіх пунктаў і блытаніны ліній ёсць „постаць", што знаходзіцца ў левым верхнім рагу малюнка. Ці патрапім знайсці яе?

# Курёзы

### УЗРОСТ — НЕ ПЕРАШКОДА

Калі дачка прызналася, што мае намер выйсці замуж, Майкл Блейклі, жыхар канадыйскага гарадка Сент-Катарынс, адобрыў гэты крок адразу, паколькі па твары дачкі „было відаць, што яна ў захапленні". Блейклі сказаў суседзям, што ён не можа не давяраць свайму дзіцяці. І вось прыйшоў дзень вяселля. 106-гадовы Блейклі апрануў лепшы касцюм і павёў да алтара сваю 78-гадовую дачку. Будучаму зяцю, заўважае брусельская газета „Суар", споўнілася 82 гады.

### НЕЗВЫЧАЙНЫ ЧЭМПІЁН

Зрабіўшы скачок на 5 метраў 97 сантыметраў, жаба па мянушцы Шугэ Таун Дэндзі перамагла 70 сваіх саперніц на штогадовых спаборніцтвах скачучых жаб у Энджэл-Кемпе, штат Каліфорнія. Шчаслівы гаспадар пераможца, Джон Хенд, які калісьці знайшоў яе ў горным вадаёме, атрымаў 500 долараў. Ён заявіў: „У мяне яшчэ ніколі не было жаб, падобных на гэту". За пераможным скачком сачылі 3.500 чалавек, хоць многія, відаць, і не з такой увагай, як Хенд.




Коннік без галавы сам па сабе не страшны; страшна, калі ён скача на чале эскадрона.